# ТАМ, адкуль выходзяць інжынеры



*Францішак Апановіч — дырэктар васьмікласнай школы ў Залуках Беластоцкага павету.*

Не, гэта не будзе аб Варшаўскім палітэхнічным інстытуце або аб Беластоцкай вышэйшай інжынерскай школе ці іншай вышэйшай навучальнай установе. Хоць з імі ёсць тут і непасрэдная сувязь.

Заглянем у той даволі глухі куточак Беласточчыны, дзе сустракаюцца граніцы Сакольскага і Беластоцкага паветаў, рэчка Слоя ўпадае ў Супрасль і вакол шумяць рэшткі колішніх Блудаўскай і Крынкаўскай пушчаў. Усё тут такое ціхае і свойскае: і тры суседнія вёсачкі Залукі, Навасёлкі і Радунін, і пачатковая васьмікласная школа, што стаіць у далінцы за Залукамі, і настаўніцкі калектыў у ёй, які складаецца з пяці настаўніц і аднаго настаўніка.

Нават у біяграфіі гэтага адзінага мужчыны-настаўніка і адначасова дырэктара школы **Францішка Апановіча** ёсць нешта абаяльнае, тыповае для нашых беластоцкіх сельскіх педагогаў. Паходзіць ён з рабочай сям'і з Сакольскага павету. У 1963 г. закончыў педагагічны ліцэй у Беластоку, год працаваў у школе ў Борках, затым служыў у арміі. Пасля ж дэмабілізацыі, працуючы зноў у школе, паступіў на завочнае аддзяленне Настаўніцкай студыі ў Беластоку і ў 1969 г. атрымаў спецыялізацыю па музычнаму выхаванню. У тым жа годзе Ф. Апановіча назначаюць на пасаду дырэктара школы ў Залуках.

— Хоць ваша школка і невялікая, але праблемаў, пэўна, не займаць?

— І не такая ўжо малая, — не без гонару заўважае дырэктар Ф. Апановіч. — У нас у школе 139 вучняў, а ў будучым годзе іх лік павялічыцца да звыш 150. Прымаем пачатковую школу з Боркаў. Павялічыцца таксама настаўніцкі калектыў да 8—9 асоб. Па сутнасці дык мы падрыхтаваны да расшырэння нашай дзейнасці. Прадуманы ўжо справы размяшчэння класаў, а наш сельскагаспадарчы гурток у Залуках забяспечыць транспарт. Найгоршая ж праблема з дарогай, асабліва на адрэзку Навасёлкі—Боркі. Многае можна будзе зрабіць у грамадскім чыне, ад якога не адмаўляюцца тутэйшыя людзі, але трэба пабудаваць 2 масты, і з гэтым мы самі не ўправімся, патрэбна дапамога з боку гміны і павету. Праўда, не мала клопату нас, настаўнікаў, чакае з забеспячэннем даязджаючых дзяцей харчаваннем і адпаведнай выхаваўчай апекай пасля заняткаў. Чакае нас вельмі працавіты год, але разлічваем таксама на дапамогу бацькоў, а яны ў нас вельмі прыхільныя да школы, дапамагаюць ва ўсім, не прыходзіцца нават спецыяльна прасіць — самі прыходзяць і цікавяцца, ці часам школе не трэба ў чым-небудзь пасобіць. Зрэшты, і моладзь тутэйшая старанная і працавітая. Спецыяльных выхаваўчых праблемаў не маем. Больш таго — наш вучнёўскі кааператыў пастанавіў вырошчваць трускалкі на прышкольным участку, а даход з гэтага намерваецца накіраваць у фонд экскурсій па роднаму краю.

— А на штодзень да чаго найбольш ляжыць вашае сэрца?

— Праўду кажучы, дык да ўсіх спраў, што датычацца школы і ўсяго тутэйшага асяроддзя. Такі ўжо лёс дырэктара. Але маю і сваё, запаветнае, і не адно, а аж тры — музыку, беларускую мову і старажытнасць. Здзіўляецеся, як можна ўсё гэта сумясціць? Прабую. У музыцы захапляюся скрыпкай, сам на ёй іграю і люблю слухаць скрыпічныя творы. Колькі цудоўных мелодый можна вычараваць з гэтых чатырох струнаў! Любоў да беларускай мовы прывілі ў мяне мае першыя настаўніцы ў школе ў Талькоўшчыне — Надзея Фурса і Валянціна Ляскоўская. Шмат чытаю твораў беларускіх пісьменнікаў, многа ў іх задушэўнасці, лірыкі. У мінулым годзе мне пашчасцілася пабыць на курсе беларускай мовы ў Мінску. Незабыўныя ўражанні. Наш кіраўнік Ніна Васільеўна Гаўрош пастаралася, каб за тыя трыццаць дзён мы пачарпнулі як мага болей карыснага на лекцыях і як найпаўней пазнаёміліся з Беларуссю. Наведалі мы выдатныя аб'екты Мінска, яго найбольш слаўныя заводы, музеі, тэатры, кіно, пабывалі ў мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа, захапляліся апавяданнямі Іосіфа Міцкевіча — брата Я. Коласа. Лекцыі ў нас мелі славутыя беларускія вучоныя Фёдар Янкоўскі, Адам Мальдзіс, Яўген Адамовіч і многа іншых. Гэта былі самыя прыгожыя дні ў маім жыцці. І цяпер на занятках па беларускай мове я выкарыстоўваю тое, што вынес з мінскага курса. Ну, а старына, то ўжо так сабе, звычайнае хоббі. Але плённае. Знайшоў я ў тутэйшых ваколіцах дзве крамяныя сякеркі. Самай „малодшай" з іх, як акрэсліў беластоцкі археолаг др Ян Ясканіс, найменш дзве з паловай тысячы год. Яны цяпер знаходзяцца ў Рэгіянальным акруговым музеі ў Беластоку. Нядаўна я адкрыў, што ў адной з тоняў Слоі ляжыць нейкая незвычайная косць, магчыма турыная або іншай выкапневай жывёліны. Гэтым летам займуся ёю. З бліжэйшых да нас часоў, дык усёй школай апякуемся магіламі паўстанцаў, што загінулі ў 1863 годзе каля Перацёсаў. Цяпер жа намерваюся заняцца выяўленнем зямлянак савецкіх партызанаў з перыяду апошняй вайны. Яшчэ пакуль што жывуць людзі, якія могуць многа дапамагчы ў гэтай важнай справе. Разлічваю таксама на дапамогу нашых гарцэраў.

— А што найбольш адметнае ў гісторыі вашай школы?

— Хіба тое, што яна сапраўдная кузня інжынераў...

— ?

— А так. Найменш дзесяць інжынераў выйшла з нашай школы. З Залукаў паходзіць Аляксандр Мінчук — магістр-інжынер, асістэнт у Варшаўскім палітэхнічным інстытуце, яго брат Уладзіслаў Мінчук — інжынер у беластоцкіх „Ухвытах", Ян Паплаўскі — таксама закончыў палітэхнічны інстытут. З Навасёлкаў родам інжынер Ніна Базылюк, што закончыла Беластоцкую вышэйшую інжынерскую школу, інжынерам стала Ірына Жылкоўская, а таксама дзве сястры Зрайкоўскія. З Радуніна сталі інжынерамі Багдан Вайтулевіч і Ванда Альшэўская. Некалькі нашых выхаванкаў яшчэ студэнты вышэйшых палітэхнічных школ. І сярод сёлетняга восьмага класа ёсць многа здольнай і працавітай моладзі, перад якою вялікія перспектывы ў будучыні.

Такія ўжо і ёсць нашыя працавітыя і скромныя настаўнікі і такое цудоўнае маладое пакаленне выходзіць з іх дбайных і чулых рук.

**Размаўляў Мікалай Гайдук**




## Апавяданні Яновіча ў „ЗАЖЭВІ"

Штотыднёвік „Зажэве" ад 7 красавіка г.г. — орган Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі — змясціў падборку апавяданняў Сакрата Яновіча, перакладзеных на польскую мову Мацеем Юзафам Канановічам і Тадэвушам Джутаем.

„У творчасці Яновіча пераважае вясковая тэматыка, а, уласна кажучы, пагранічча горада і вёскі, — піша „Зажэве". — Героямі ягонай працы з'яўляюцца ў асноўным людзі, якія выехалі з вёскі ў мясцовую метраполію, значыць у Беласток. Арыгінальнасцю прозы Яновіча з'яўляюцца надта кароткія літаратурныя формы. Некаторыя апавяданні, як, напрыклад, друкаванае на гэтых старонках „Прыехаў", налічваюць жа ўсяго не больш дзесяці радкоў. Патрэбна вялікае ўмельства, каб у так кароценькай навеле знайшлося не толькі як найбольш думак, але таксама і нечаканая пуэнта. Яновічу ўдаецца гэта беспамылкова".




Гавораць, што вялікая пустыня Сахара ў свой час была квітнеючай краінай, на якой жылі людзі, была вада, раслі дрэвы і кветкі, і што зямля гэта сталася пустыняй толькі „дзякуючы" варварскай, няўмелай дзейнасці чалавека. Наколькі гэта праўда, цяжка сказаць. Аднак у сённяшні час ёсць прыклады дзейнасці чалавека, якія не заўсёды згодны з натурай і часам сведчаць аб варварскіх адносінах да прыроды.

„Калісьці, помню, — расказваў мой знаёмы з-пад Семяноўкі, — у нас на гэтых балотах было шмат дзікай птушкі, колькі хоч рыбы, а сёння на месцы балота пыхціць пад нагамі, няма ў рэчцы рыбы, загінулі птушкі. Ды і трава адразу пасля меліярацыі была добрая, а зараз паяўляецца нейкая такая, што каровы не хочуць есці".

На фоне краіны, аднак, Беласточчына ў гэтых адносінах выглядае яшчэ найлепш. „Тое, што адрознівае Беласточчыну ад іншых рэгіёнаў краіны, — гэта штосьці, што назаву аўтэнтычнасцю. Толькі тут (а мо яшчэ ў Бяшчадах) зіма ёсць сапраўднай зімой, а ўсе поры года маюць свой сапраўдны памер. Толькі тут яшчэ ёсць вада, якая мае выгляд і смак вады, а лес гэта не проста згрупаванне дрэў, але кавалак натуры, якая жыве ўласным жыццём", — сказаў калісьці знаны журналіст з „Палітыкі" Зыгмунт Шэліга. У гэтых словах ёсць штосьці блізкае сэрцу кожнага беластаччаніна, штось, што прымушае ў імя ўласнага дабра і прыязджаючых сюды людзей прадумана ахоўваць гэтую найбольш каштоўную візітную картачку ваяводства.

Беласточчына развіваецца вельмі хуткімі тэмпамі. Каб магчыма разумна кіраваць эканамічнымі працэсамі ваяводства і не парушаць натуры, а асабліва не нішчыць яе неразумна, ваяводскія ўлады Беласточчыны звярнуліся да вучоных. У пачатку гэтага года адбылася ў Аўгустове навуковая канферэнцыя. З дакладаў і спрэчак адназначна вынікае, што натуральнае асяроддзе Беласточчыны з'яўляецца унікальным у Еўропе з увагі на чысціню нашых вод, паветра, прыгажосці краявідаў. Некаторыя абшары захавалі амаль што свой першапачатковы выгляд.

Пасля аўгустоўскай канферэнцыі адбылася III сесія Ваяводскай рады нарадовай, якая прыняла дакумент-праграму аховы натуральнага асяроддзя чалавека ў Беластоцкім ваяводстве на 1974-1980 гады.

Асабліва многа месца адведзена справам меліярацыі і верафікацыі меліяра-

→

## У Аўгустоўскім музеі

У Аўгустоўскім краязнаўчым музеі захоўваецца багата экспанатаў з усходняй часткі павету, з лясунскіх вёсак з беларусамоўным насельніцтвам. Сярод дрымучых Аўгустоўскіх лясоў па сённяшні дзень можна пачуць беларускую мову, якая гучыць, мабыць, крыху архаічна ўжо, але як жа міла сэрцу!

У музеі гэтым знаходзяцца унікальныя экземпляры беларускай народнай матэрыяльнай культуры: даўнія жорны з драўлянай абліцоўкаю, кросны, вілысахары з дрэва, чаўно-доўбанка, зробленая з вялізнага пня, усялякія рыбацкія прылады, ганчарныя вырабы, цяслярскія і т.п.

Чытаючы назвы паасобных экспанатаў, якія падаюцца таксама і ў мясцовым беларускім гучанні, цяжка пазбыцца ўражання, што дапушчаны тут кардынальныя памылкі. Напрыклад, вышываны ручнік названы „радзюшкаю", гладыш атрымаў назву „дзежкі", матавіла — „церніцы"... Такіх памылак больш. Відаць, што аўтары гэтых надпісаў не разумеюць іх значэння або недакладна выпыталі ўласнікаў экспанатаў...

Музей знаходзіцца ў былым, старым будынку кіно, які зусім не прыстасаваны для патрэб такой установы. Перш за ўсё няма тут магчымасці ўтрымаць пастаянную тэмпературу і вільготнасць паветра, што мае капітальнае значэнне ў трывалым захоўванні экспанатаў. Музею патрэбна вялікае памяшканне і сучасная арганізацыя; час пакончыць з аматарскімі пачаткамі.

У лясных вёсках Аўгустоўшчыны тоіцца яшчэ не адзін скарб нашай народнай матэрыяльнай культуры... Старыя прадметы часамі проста сякуць на дровы, паляць як непатрэбшчыну. Трэба ратаваць іх, пакуль яшчэ час!

**Сакрат Яновіч**



*Мікалай Абрамовіч за работай.*



*Плеценая мэбля ўпрыгожвае чайную „Перапёлачка" ў Беластоку.*

## Народны ўмелец

Мікалая Абрамовіча з калоніі Астраўкі Беластоцкага павету здаўна цікавіла функцыянальнасць і эстэтычны выгляд хатняй мэблі. Яна, як вядома, з'яўляецца аздобай кожнай кватэры. Пачаў ён найперш рабіць усё новыя ўзоры сталоў, крэсел, табурэтак, насценных кветнікаў, флаконаў і талерак ды аплятаць іх саломай і рознакаляровымі віткамі ракіты. Атрымалася прыгожая і густоўная мэбля. Зараз яна служыць усё большаму кругу людзей. Карыстаюцца ёю наведвальнікі чайной «Перапёлачка» ў Беластоку, некаторых варшаўскіх, гданьскіх і іншых гарадскіх устаноў. Заказваюць яе шматлікія кліенты для сваіх прыватных кватэр.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

 

Пачатак на стар. 1




дыя дзяўчаты, выходзілі ў поле цяпер і з касой, і з плугам. Трэба было запрацаваць на хлеб для сям'і і паспяваць наведвацца ў Гродна ці Беласток у турму, каб перадаць падаянкі чорных сухароў сваім вязням-братам, таварышам.

Гэтая, здавалася б, не па сіле нам, маладым дзяўчатам праца, была нястрашнай, бо і мы, як і нашы браты і ўся наша моладзь, змагаліся за народнае шчасце і верылі, што ў гэтым змаганні вытрымаем і пераможам.

І мы вытрымалі... дачакаліся...

У 1939 годзе прыйшла да нас Чырвоная Армія. З турмаў вярнулася наша выдатная моладзь. Колькі было радасці! Рэхам перамогі ў наваколле ізноў плылі нашы песні, гучала вольная музыка. Чырвонаармейцы часта прыязджалі да нас з кінафільмамі, аб якіх раней нам і не снілася. Колькі было ў іх цікавага, асабліва для нашых дзяцей. А былі яшчэ і такія старыя, што баяліся глядзець і хрысціліся, гаворачы, што гэта нячыстая сіла ходзіць па сцяне дома.

Гэтая радасць была для нас нядоўгай.

У 1941 годзе на самай справе прыйшла да нас нячыстая сіла — нямецкі фашызм. Цяжкія насталі дні. Фашысты схапілі нашых сыноў, братоў, мужыкоў і за вёскай на ўзгорку расстралялі, тут быў расстраляны і мой родны брат Аляксандр. У гэты час (1942 год) пад Смаленскам у баях з фашыстамі загінуў малодшы брат Віктар — камсамолец, ахвотнік камсамольскага палка.

Асірацелі нашы дзеці... сем'і... Быццам памерла ўсё жывое ў вёсцы Гаркавічы. Толькі па-ранейшаму шумелі высокія ліпы, клёны, бярозы, якія пасадзілі некалісь мае браты. Яны і цяпер шумяць, яшчэ больш высокія, здаецца, з небам гавораць. Вельмі цяжка ўспамінаць гэтае былое зараз. Так і вее пусткай і смуткам. Але, аднак, з палёгкай ўздыхаецца, акінуўшы сённяшняе наваколле, бачачы і ведаючы, што кроў і слёзы праліты нездарма. Што працоўныя Польшчы, і нашай Заходняй Беларусі, і маіх родных Гаркавіч жывуць свабодна, шчасліва. Жывуць і не забываюць аб тых, хто за вызваленне аддаў самае дарагое — сваё жыццё. Ушаноўваюць іх памяць, адкрываючы музеі, помнікі, абеліскі. Такія музеі-помнікі я наведала ў шматлікіх мясцовасцях Беласточчыны: Саколцы, Дуброве, Гарадку, Гайнаўцы, Белавежы. Я шчыра ўдзячна за тое, што ва ўсіх гэтых музеях ушаноўваецца светлая памяць былых барацьбітоў-падпольшчыкаў, што ўшаноўваецца светлая памяць і майго брата Сяргея Прытыцкага.

І ў маіх родных Гаркавічах на тым месцы, дзе некалісь заўсёды збіралася наша моладзь, дзе спявалі, танцавалі і праводзілі нелегальныя сходы, зараз размяшчаецца „Ізба памяці Сяргея Прытыцкага", а за вёскай на ўзгорку ўзнімаецца помнік расстраляным гітлераўскімі бандытамі.

У Саколцы для савецкіх салдат, загінуўшых пры вызваленні горада ад нямецкіх захопнікаў, пастаўлен помнік з чырвонага прыроднага каменя. Гэты камень прывезены з Свентакшыскіх гор — адтуль, дзе была найбольшая партызанская арганізацыя, адтуль, дзе быў і мой брат Сярожа Прытыцкі.

Тое, што імя майго брата прысвоена камбінату сталяркі ў Саколцы, мне асабліва дорага. З гэтымі мясцінамі звязаны яго дзіцячыя і юнацкія гады. Тут ён стаў на цярністы шлях рэвалюцыянера. Тут у яго нарадзілася першая вера ў тое, што прыйдзе іншая пара, пара волі і свабоды, калі неразарвальнымі вузламі сяброўства і братэрства з'яднаюцца ў адно савецкі і польскі народы.

І таму мне хочацца зараз ад усёй душы праз беластоцкі беларускі тыднёвік „Ніва" выказаць гэтыя шчырыя словы маёй удзячнасці польскім народным уладам і ўсяму польскаму народу за ўсё тое, што зроблена імі на ўшанаванне светлай памяці Сяргея Прытыцкага і пажадаць ім усім добрага здароўя і шчасця, вялікіх працоўных і творчых поспехаў.

Са словамі самай шчырай падзякі мне хочацца звярнуцца асабіста да тых, хто непасрэдна прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі, афармленні і будаўніцтве гэтых музеяў, помнікаў, абеліскаў і ў выданні да іх гістарычных матэрыялаў-дакументаў...

Вялікае і сардэчнае ім усім дзякуй!

**Люба Прытыцкая**




## Каб такія дочкі не радзіліся

Жылі яны за Беластокам, недалёка ад Клеасіна. Дачка гультай, усё гаварыла, што яна нездаровая і таму не можа рана ўставаць і памагаць старэнькай маме апрацоўваць невялікую, праўда, гаспадарку. Пасля падвярнуўся ёй муж, але і надалей яна не хадзіла на працу, завязвала галаву ручніком і даказвала, што яна хворая. Да лекараў не ішла, бо ў сапраўднасці была здаровай. Калі трэба было атрымаць большую кватэру, дачка забрала старую да сябе. На вёсцы што мела матка — усё прадалі. Грошы за кусок поля і будынкі маці аднак аддала дачцы. Нават свой залаты шлюбны пярсцёнак аддала. Пры ёй яна думала дажыць да смерці. Сыну з бацькоўскага дабытку нічога не папала. Таму ён і не думаў браць маці да сябе, якая, як здавалася яму, пакрыўдзіла яго, не даўшы нічога з бацькаўшчыны.

У дачкі пайшлі дзеці. Нарадзілася іх трое. Выгадавала іх бабуля. Яна ўсё ў хаце рабіла, а дачка толькі камандавала і часта абзывала старую нецэнзурнымі словамі .

Маючы такую „бабулю", магла ісці дачка на работу, але дзе там, гультай не любіць працы.

Бабуля пастарэла і сіл стала мала. Ёй ужо за 83 гады. Жывуць яны ў блоку на вуліцы Бранеўскага ў Беластоку. Але як жывуць? Дачка не дае есці роднай маці, не дазваляе, каб на газавай плітцы зрабіла сабе кіпятку. Нядаўна ў бабулі папухлі ногі. Неабходны быў лекар. Але дачка і не думала клікаць да яе доктара. Бабуля толькі дзякуючы суседзям папала да яго. Дачка лячыць яе не хацела і толькі пушчала, быццам каменнямі, цяжкімі праклёнамі, а калі старая не сцярпела і нешта гаварыла, дык родная дачка руку на маці паднімала і выкрыквала: „Калі ты здохнеш, ведзьма?! Добрых людзей самаход на вуліцы раз'язджае, а на цябе здыхання не дачакацца".

Не толькі дачка крыўдзіць старэчу. Крыўдзяць яе таксама дзеці дачкі. Маці сказала аднойчы свайму 9-гадоваму сыну, каб не ўпусціў старой у хату. Пяць гадзін прастаяла яна ў зімовую пару пад дзвярыма і не ўпрасіла ўнучка. Падыйшла суседка. Стала яна ламатаць у дзверы і пужаць мальша, што іх выламае, і толькі тады ўнучак адчыніў дзверы.

Аднойчы прыпомніла маці дачцы, як цяжка ёй было, калі яна падрастала. За гэты ўпік дачка павыкідала з хаты на лесвіцу ўсю яе вопратку, а ўнукі гэтую вопратку закапалі ў пяскаўніцы. Многа бабуля паплакала, пакуль усё гэта пазнаходзіла.

Каб не суседзі, якія час ад часу накормяць старэчу і пасаромяць дачку за нялюдскасць, мусіць, яна б ужо з голаду і холаду загінула. А калі хто запытае дачку, чаму яна не ідзе на работу, яна адказвае, што ў яе трое дзяцей і хворая матка.

Дачка мае таксама дачку, якая бачыць, як яе родная маці адносіцца да сваёй роднай маці. Дрэннае можа прыліпнуць да ўнучкі, і яна ў будучыні так сама будзе адносіцца да сваёй маці.

**М. Хмялеўскі**



*Майстар пякарні Тадэуш Качан.*

## Хлеб наш надзённы

На працягу стагоддзяў накапілася шмат пагаворак, звязаных з хлебам, як прадуктам, без якога проста немагчыма было б пражыць. Да сённяшняга дня можна пачуць зразумелыя нам словы „трэба зарабіць на хлеб", што абазначае амаль усе патрэбнасці чалавека, аснову яго жыцця.

Працэс прадукцыі хлеба заканчваецца ў пякарні. Вельмі важным з'яўляецца тое, каб гэты канчатковы працэс выканаты быў добра, бо хлеб хлебу не роўны.

У Сідры ў Сакольскім павеце нядаўна пабудавана новая пякарня, дзе пякуць хлеб для Сідры і для вёсак сідраўскага ГС-у.

**М. Хмялеўскі**
**фота Я. Цялушэцкага**

## УЗБАГАЦІЦЬ ВЯСКОВЫ КРАЯВІД, ДЫ ЯК?

Усім вядома, што зелень дрэў і кустарнікаў адыгрывае вялікую ролю ў жыцці чалавека. Зялёныя насаджэнні надаюць тон мясцовым кліматычным умовам. Дзе расце больш дрэў, там нават у ліпеньскую спёку не так моцна прыпякае сонца, там больш чыстае і вільготнае паветра. Прырода карысна ўплывае на наш настрой, нават тады, калі нехта яго нам сапсаваў.

З кожным годам на вёсцы прыбывае школ, цэнтраў здароўя, стражацкіх раміз, клубаў. Узнікаюць яны часта на месцы, дзе дагэтуль красаваліся шнурочкі прысялібных дрэў і іншага прысаддзя. І таму цяпер усё часцей назіраем вясковую шэрасць. Толькі ўлетку яшчэ засланяе яе зялёная лістата. Але яе ўсё менш і менш...

Жыхары вёсак хочуць садзіць у агародчыках не толькі пладовыя дрэвы, але і дэкаратыўныя дрэўцы, усялякія кветкі. Толькі што са свечкай трэба шукаць зялёных піхтаў, туі, магноліі, кіпарысу, айвы, іргі, чырвонага дуба, язьміну. Калі пасля доўгіх старанняў удаецца штосьці знайсці, прыходзіцца плаціць „салёную" цану, бо, вядома, рэдкі тавар каштуе.

Адчуваецца недахоп у продажы не толькі экзатычных раслін. Няма нават дзе купіць папулярных дэкаратыўных дрэўцаў граба, вяза, ліпы, бука, ціса, клёна, амерыканскай чаромхі, ніцай вярбы, лістоўніцы.

А запатрабаванне на гэтыя дрэвы і кустарнікі ўсё павялічваецца. Ды дзе іх шукаць?! Няма нават за дарагую цану.

Дык як тады ўзбагаціць вясковы і не толькі вясковы краявід? (ця)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ВЯСНЯНКА*
*(„РОГУЛЬКА")**

*За лісом-бором сонцэ е,*
*За лісом-бором сонцэ е,*
*Там Ванічка лён сіе,*
*Там Ванічка лён сіе.*
*Лён сіючы, говорыт,*
*Лён сіючы, говорыт:*
*— Хто ж мой лёночок ополе?*
*Хто ж мой лёночок ополе?*

*Одозвалася Манёчка,*
*Одозвалася Манёчка:*
*— Я твой лёночок ополю,*
*Я твой лёночок ополю —*
*Твэю мілою зостану,*
*Твэю мілою зостану.*
*Твэю мілою жоною,*
*Твэю мілою жоною,*
*Твэю вэрною слугою,*
*Твэю вэрною слугою.*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

*) „Рогулькі" спявалі калісьці ад Вялікадня да правадной нядзелі (сем дзён) дзяўчаты вечарам на вясковай вуліцы.

Мелодыя, як у раней змешчанай „рогульцы" („Святы Юрэ-Рыгорэ...")




## ЛЮБІЦЬ, НЕ ЛЮБІЦЬ — ХТО АДГАДАЕ...

Было каханне — а сёння чорт знае што... Не залезеш жа ты ў сярэдзіну другога чалавека, не пазнаеш яго думак, нават калі з ім шмат гадоў пражыў ці прапрацаваў разам. Т-а-а-к... Складаная праблема. Складаная, і кожны з нас яе мусіць вырашаць на свой спосаб і лад.

Памятаю, скардзілася суседцы кабетка. — А ведаеце, куманька, а не кахае мяне ўжо мой, напэўна не кахае. — А чаму ж гэта? — развесіла вушы тая. Да другое можа забягаць пачаў? — А дык не, не такі ён у мяне, не такі. А толькі, ведаеце, калісь, як чарку вып'е, то абавязкова адлупіць, з зайздрасці сінякоў панаставіць. Не было, кажу вам, тыдня, каб мне разоў два-тры рэбраў не пералічыў. А цяпер? Падумаць толькі! Больш чым два месяцы пальцам не крануў нават. Я ўжо і сварыцца прабавала — нічога, аднак, не памагае. Разлюбіў, бадай, напэўна разлюбіў — ну, бо якая ж яшчэ магла быць прычына?

Паслухаў я, паслухаў, ды задумаўся. Сорак год я, здаецца, пражыў на свеце, а ад вясковых жанчын вучыцца даводзіцца. Ну, бо ўзяць хаця б нашага дырэктара...

Колькі б не працаваў, не стараўся, падзякі ніякай няма. Працаўніцу, якая добрасумленна 20 год прарабіла, вось так сабе выставіў за дзверы — звальняцца бедная будзе.

Што б яму хто на вуха не шапнуў, на паперцы не чыркнуў, усё за праўду бярэ. Кожны раз разнос — упіс у апінію. Правяраць? Навошта? Калі ясна ўсё — з вышыні кабінета і мяккага крэсла. Ну, бо праўда адна быць толькі можа, дырэктарска-кіраўнічая, каб яна лопнула.

Ну, і дарма наракалі, клялі і чакалі, што зменіцца дзе што. Думалі нават, што прырасло ўжо да заду — тое яго крэсла.

І не кумекнуў ніводзін, што прычынай паводзін каханне быць можа. Каханне буйнае, пеністае, кіпучае пекла. Любі, як душу — трасі, як грушу. Забыўся ўжо адзін з другім, як у дзяцінстве бацькоўская рука любоўна задніцы секла.

Даруйце, даруйце. Нам цяпер усё ясна. Вы нас усіх пакахалі горача, справа іншая толькі — ці вас хто.

Ну бо я, на той прыклад, чалавек ужо старэйшы, змучаны працай, жыццём і сям'ёю. Даўно ўжо паспеў забыцца пра агонь пачуцця. Я чамусьці лічыў, што каханне за мною. Не тыя ўжо гады, не тыя парывы. Спакой мне патрэбны. Умовы для працы.

Кахалі б сабе закладовую раду, усіх падхалімаў, што шэпчуць на вуха. Калі яшчэ мала, дык узяць сакратарку. Сёння на выбар дзяўчатак, як цацак. Заўсёды яна была б пад рукою. На ёй бы зганялі любоўнага „каца".

**Ларс**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Сідра на XXX гадавіну Народнай Польшчы

Сідра — гэта так званая асада, нібы гарадок. У даваенны час налічвала яна 1000 жыхароў. Пражывала тут тады 500 яўрэяў. Займаліся яны дробным гандлем. Прадавалі свае тавары ў маленькіх крамах. Было шмат анучнікаў і арандатараў садоў у паноў. Іншыя жыхары Сідры займаліся земляробствам. Прамысловасці ніякай не было. Адзін млын, у якім працавалі дзве асобы.

У час вайны, у 1941 годзе Сідра амаль уся згарэла. Яўрэйскае насельніцтва гітлераўцы знішчылі.

Прыйшла народная ўлада. У Сідры наступілі вялікія перамены. Каля пасёлка праходзіць чыгунка Саколка-Сувалкі, таму ў Сідры быў пабудаваны вакзал з усімі патрэбнымі будынкамі. Многа людзей знайшло тут працу на чыгунцы.

Пабудавалі ў Сідры вялікі купальны басейн — такога другога няма ва ўсім ваяводстве. Пабудавалі вялікую, па-сучаснаму абсталяваную пякарню. Цяпер не трэба ўжо ездзіць у Саколку за хлебам і булкамі, бо на месцы ёсць свае — свежыя, а сакольскія бывалі чэрствыя.

ГС у Сідры пабудаваў адміністрацыйны будынак і многа гандлёвых павільёнаў. У былым маёнткавым палацы абсталяваўся цэнтр здароўя. Была ў Сідры сушарня бульбы, але не здала яна экзамена і цяпер знаходзіцца тут павятовая мяшальня кармоў. Ёсць у пасёлку бібліятэка і святліца, адміністрацыйныя і гаспадарчыя ўстановы: гміна, камендатура МО, ГС, СОП. Вырасла і расце многа мураваных жылых дамоў.

**Т. К.**

## На пасёлку Тысячагоддзя

Па ініцыятыве гуртка ЗБоВіД і ПОП № 24 на пасёлку Тысячагоддзя ў Беластоку адбыўся сход, прысвечаны святкаванню 30-годдзя ПНР.

На сходзе прысутнічалі намеснік старшыні акруговага праўлення ЗБоВіД мгр Мікалай Яканюк, старшыня праўлення гарадскога аддзела мгр Ілья Федаровіч, дырэктар пачатковай школы № 6 Галена Абуковіч, дырэктар школы № 25 мгр Мечыслаў Грамадскі, дырэктар 11-ай школы Цэліна Грынявіцкая, ганаровы старшыня пасялковага камітэта Уладзімір Губар.

З дасягненнямі і планамі працы пазнаёміў прысутных намеснік старшыні гуртка ЗБоВіД Эдвард Радзішэўскі. Потым ішла бурная дыскусія. Сабраныя добра ацанілі працу гуртка ЗБоВіД і ПОП на пасёлку Тысячагоддзя. Добра ідзе тут супрацоўніцтва з моладдзю. Прысутныя падкрэслілі, што ў апошні час развіваецца прапагандысцкая праца сярод жыхароў пасёлка, у чым вялікая заслуга Васіля Петручука.

Сход накрэсліў планы далейшага супрацоўніцтва са школамі і планы святкавання юбілею XXX гадавіны ПНР.

**(вп)**

---

рокую, асветленую сонцам паляну. У дальнім кутку яе, у крытым нагібе рэчкі, стаяла пахмурная хаціна, маленькія вокны якой, быццам амбразуры, падазрона глядзелі на паляну. „Калі ў гэтай халупе паставіць кулямёт, не падступішся“, — мяльком падумаў Яфімцаў. І сапраўды, з трох бакоў хаціна прыкрывалася ракой, а перад чацвёртым — роўная адкрытая паляна. Хто б ні паявіўся на ёй, з хаціны ён быў, безумоўна, бачны.

Таму Яфімцаў не пайшоў за Стасяй далей, а застаўся на ўзлеску. Стася лёгка ўскочыла на ганак і знікла за дзвярыма. Яфімцаў чакаў, стоячы за шырокім ствалом сасны. Вельмі хацелася закурыць. Калі ішлі па лесе, было, вядома, не да курэння, а цяпер, бадай, гэта можна. Яфімцаў дастаў цыгарэты, пстрыкнуў запальнічкай. І адразу ж маленькі агеньчык зіхнуў вялізным, асляпляльна яркім полымем. Нешта балюча ўдарыла ў твар. Падаючы, Яфімцаў стукнуўся патыліцай аб сасну і страціў прытомнасць.

Над ім схіліліся двое.

— Дабегаўся, пся крэў, — прабурчэў адзін з іх, прыставіўшы ствол аўтамата да грудзей Яфімцава. — Як думаеш, дабіць яго, га?

— Не трэба, хай вырашае паручнік.

— Пляваць я хацеў... — пачаў быў першы, але другі перапыніў:

— Цсс... ідзе.

**(Працяг будзе)**

## Увага, цяжка хворы!

Раён Хімічнай у Гайнаўцы і прылягаючых вуліц быў парушаны неўласцівым падыходам да людскога жыцця з боку персанала павятовага шпіталя ў Гайнаўцы. У лютым гэтага года Аляксандр Кірылюк з Гайнаўкі, вул. Рыся, цяжка захварэў і яго завезлі ў шпіталь на ўнутранае аддзяленне. У яго наступіў параліч правай часткі цела, ён затраціў мову — усё ў выніку кровазліцця.

І як жа здзівілася жонка хворага Ніна Кірылюк, калі ардынатар аддзела лекар Я. Крынская праз тры тыдні сказала ёй, што мужа яе вылечыць не можа і што выпіша яго са шпіталя. Тры дні хадзіла жонка, прасіла лекара, каб ратавала мужа або каб накіравала яго ў Беласток. Лекар адказала, што яна не будзе старацца за месца ў Беластоку. Калі сама Н. Кірылюк выстараецца такое месца, яна, лекар, накіруе хворага.

І хоць такі цяжка хворы павінен лячыцца ў шпіталі ад 2 да 6 месяцаў, ардынатар унутранага аддзела гайнаўскага шпіталя выпісала Кірылюка праз тры тыдні. Прывезлі яго дахаты і пакінулі без ніякай дапамогі.

Прайшло больш 10 дзён, і хвораму палепшала, тады жонка зноў кінулася далей шукаць ратунку, каб лячыць мужа, каб аддаць яго ў бальніцу пад апеку лекараў.

Толькі дзякуючы кіраўніку абвадовай амбулаторыі ў Гайнаўцы — лекару П. Марозу да Аляксандра Кірылюка вяртаецца здароўе. Ён ужо пачынае гаварыць, сам садзіцца, есць. Ёсць надзея, што чалавек будзе жыць.

**Раса**

## Актывіст БГКТ

Аляксандр Шыманюк, сын Пятра, жыхар вёскі Семяноўка, гаспадарыць на 6 га ўласнай зямлі і 0,70 га лугоў, якія ўзяў у арэнду з дзяржаўнага фонду зямлі. Зямля тут усюды слабая, у асноўным VI клас. Гаспадарка А. Шыманюка стаіць аднак добра і атрымлівае ён высокія паказчыкі ў жывёлагадоўлі і ва ўраджаях. У яго ёсць конь, 6 кароў, 2 цялят, 3 свінні і 12 парасят.

У 1972-73 г.г. А. Шыманюк прадаў у ГС 4 тоны кантрактаванага зерня і 14 тон бульбы. Сярэдняя з гектара ў яго 18 цэнтнераў збожжавых і 200 цэнтнераў бульбы. Такіх вынікаў на зямлі VI класа дабіваецца гаспадар дзякуючы таму, што дае многа мінеральных угнаенняў. Ён штогод выконвае свой план пакупкі ўгнаенняў у 150 прац.

Аляксандр Шыманюк працуе таксама дыспетчарам у сельскагаспадарчым гуртку Семяноўка. Працу гэту вядзе ад 1960 г. Семяноўскі сельгасгуртох працуе добра. У пачатку свайго існавання меў ён толькі адзін абмалотачны агрэгат. Цяпер мае 11 трактароў з шырокім саставам машын. Гуртох абслугоўвае вёскі Семяноўка, Баб'я Гара, Пасекі, Альхоўка, Лука, Слабодка. У 1973 г. сельгасгуртох заняў I месца ў павеце. У такім вось гуртку працуе гаспадар А. Шыманюк. Ён мае свае заслугі ў развіцці гэтага гуртка.

А. Шыманюк таксама актыўны грамадскі дзеяч. Ён ужо 3 гады з'яўляецца членам гміннага камітэта ПАРП і членам пленума павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. Член БГКТ і актыўны дзеяч гэтай арганізацыі. Прымае ўдзел у грамадскай працы пры пабудове дарог, пры арганізацыі беларускіх фэстынаў. Свае жыццёвыя дасягненні чэрпае гэты чалавек з працавітасці і адважнага карыстання ўсім тым, што прыносіць сацыялізм. А. Шыманюк вучыць сваіх дзяцей. Адзін сын ужо канчае Варшаўскі універсітэт.

**В. Бура**

## Перш за ўсё ХЛЕБ!

У Шудзялаве адбыўся сход вясковага актыву — гміннага камітэта ПАРП і ЗСЛ. Прысутнічалі раённыя аграномы. У сходзе прыняў удзел сакратар павятовага камітэта ПАРП па сельскай гаспадарцы Анатоль Цішэўскі. На парадку дня стаялі найважнейшыя заданні гэтага сезона ў сельскай гаспадарцы.

Сёлета была сухая зіма і сухая вясна, у зямлі мала вільгаці — з'ява некарысная для сельскай гаспадаркі. Пасля сходу на вымерзлых палетках жыта, пшаніцы і рапаку было пасеяна яравое збожжа, як ячмень, віка. Аграномы агледзелі палі і ацанілі працэнт вымерзлага збожжа. Яны таксама правяралі ва ўсіх гаспадароў, якую хто мае магчымасць павелічэння гадоўлі на сваёй гаспадарцы. Загадалі, каб усе гаспадары пабялілі свае хлявы.

**Т. К.**

## КАРОБКІ

У Дубічах Царкоўных адкрыты скуп саламяных каробак. Змяшчаецца ён у колішніх гомаўскіх будынках, у якіх нядаўна яшчэ быў аблуплены дах і патрабаваў рамонту, які і быў паспяхова выкананы.

Цяпер у кожны чацвер сяляне з Дубіч і з іншых вёсак прадаюць тут сваё «золата», як у нас завуць каробкі. Хочацца прыпомніць, што ў гэтых аколіцах людзі паўсюдна займаюцца вырабам розных цікавых рэчаў з саломы. Кіраўніком дубіцкай скупкі саламяных каробак з'яўляецца Дзмітры Мікуліч, які таксама і ў іншых вёсках мае свае філіялы, дзе таксама купляе каробкі.

**М. Панфілюк**

## Цэнтр здароўя ў Міхалове



У першыя гады пасля вайны ў Міхалове быў адкрыты фельчарскі пункт. Працавалі тут фельчары Нітнэр і Жывецкі. У 1953 годзе ў Міхалова прыязджае лекар Ольтух. Ён пачынае кіраваць цэнтрам здароўя. Памагае яму фельчар Жывецкі. У 1954 годзе ў будынку на вул. Школьнай была адкрыта ізба хворых. Хворыя ляжалі тут да двух тыдняў. У 1956 годзе „малы шпіталь“ быў ліквідаваны, а на першым паверсе паўстала радзільная ізба. На партэры былі зроблены агульны і зубаўрачэбны кабінеты і лабараторыя, дзе рабілі ўколы.

Цяпер персанал цэнтра налічвае 21 чалавек, сярод іх ёсць 5 лекараў, 6 медсёстраў, 2 акушэркі, лабарантка і іншыя работнікі.

Цэнтр здароўя мае цяпер 2 агульныя кабінеты, два кабінеты для ўколаў, зубаўрачэбны кабінет, лабараторыю, парадню „К“ і радзільную ізбу.

Міхалоўскі цэнтр здароўя апякуецца 15 вёскамі. Усё больш асоб карыстаецца з цэнтра здароўя. У 1962 годзе тутэйшыя лекары прынялі 6.400 асоб, а ў 1973 годзе — 29.500 асоб. Кіраўніком міхалоўскага цэнтра здароўя з'яўляецца **лекар медыцыны Уладзіслаў Пшылажынскі.** Кіраўнік мае вялікія планы развіцця цэнтра. Найперш будзе праведзен капітальны рамонт будынка з некаторай разбудовай. У перспектыве мае быць адкрыты другі зубаўрачэбны кабінет і кабінет фізіятэрапіі. Лекарскія кадры павялічацца на трох новых лекараў.

**Павел Гутнік**

## Солтыс сяла Навасады

„Ніва“ няраз пісала ўжо пра выбары солтысаў. Хачу аднак яшчэ раз вярнуцца да гэтай тэмы. У апошніх выбарах солтысаў вялікі ўдзел прынялі жанчыны. Таму агульны сход вёскі Навасады сваім солтысам выбраў актыўнага члена гуртка вясковых гаспадынь Яўгенію Харкевіч.

Жыхары Навасад вераць, што іх новы солтыс, хоць маладая гэта жанчына, пастараецца перабудаваць вуліцу ў вёсцы, пакласці тратуар, правесці рамонт клуба, будзе дбаць пра чысціню (вядома, жанчына) панадворкаў, пра гародчыкі з кветкамі каля кожнага дома, пра гадоўлю курэй.

Яўгенія Харкевіч — гэта адзіны солтыс-жанчына ў Гайнаўскай гміне. Яна прымае ўдзел у пасяджэннях гміннага ўпраўлення ў Гайнаўцы.

Навасадскаму солтысу складаем пажаданні плённай працы і пастаяннага даверу сваіх выбаршчыкаў. **Раса**

## Дзейнасць БГКТ у Кнаразах

У вёсцы Кнаразы дзейнічае гурток БГКТ. У ім адны дзяўчаты. Іх 15. Важнейшымі асобамі ў гуртку БГКТ з'яўляюцца старшыня Зося Лапцева, сакратар Люся Тамашук, касір Надзя Ляшук. У сваёй вёсцы дзяўчаты на першы дзень Вялікадня вечарам далі канцэрт. Было многа гледачоў. Уражанні з гэтага вечара былі ва ўсіх добрыя.

**Яўгенія Андрэюк**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ Паблізу вёскі Плянты Беластоцкага павету згарэў малады лес, 5 га, вартасць 30 тыс. зл. Быў гэта лес дзяржаўнага фонду зямлі.

■ Па вуліцы Вызвалення ў Гайнаўцы ехаў на веласіпедзе Аляксандр Варанецкі, год 70 з Гайнаўкі. Едучы, папаў пад матацыкл Мар'яна Вярбы з Сакоў. Веласіпедыст быў паранены і адвезены ў бальніцу.

■ Вельмі страшны выпадак здарыўся на станцыі ПКП Грыгораўцы ў Бельскім павеце. У час праезду тут таварнага поезда з Беластока ў Чаромху, малады дыжурны станцыі Аляксандр Календа, 23 гады, з Бельска, хацеў падаць кіраўніку поезда ключы ад чыгуначнай стрэлкі ў Кляшчэлях. Таму ён бег па перону побач з поездам. У пэўным моманце сутыкнуўся з вагонам і папаў пад колы цягніка. Цяжка параненага, завезлі яго ў шпіталь у Бельску, дзе ён хутка памёр.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА ПАЧАКАЛЬНЮ ПКС У ЗАБЛУДАВЕ

**Адказвае:**

**Urząd Miasta i Gminy w Zabłudowie pow. białostocki.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pod tytułem „Komu to potrzebne”, dotyczącą poczekalni autobusowej w Zabłudowie Urząd Miasta i Gminy w Zabłudowie wyjaśnia:

— istniejąca obecnie w Zabłudowie poczekalnia przeznaczona jest do rozbiórki, ponieważ nie nadaje się do dalszego użytkowania. Jako przystanek PKS służy ona tymczasowo, do chwili wybudowania nowego dworca PKS. Budowa nowego dworca w Zabłudowie planowana jest w roku 1975.

— istniejący obecnie budynek poczekalni był w ubiegłym roku remontowany tj. odmalowano budynek zewnątrz, wyremontowano ścianę i dach, odmalowano okna.

Ponowne przeprowadzenie remontu w roku bieżącym będzie niecelowe z uwagi na planowaną rozbiórkę. Urząd wstawi jedynie szyby w oknach i odnowi elewację od strony miasta.

**Naczelnik Miasta i Gminy**
**mgr inż. Józef Paniczko**

### БУДЗЕ ЦІ НЕ АЎТОБУС У ПЛЁСКІ?

**Адказвае:**

**Wojewódzkie Przedsiębiorstwo Państwowej Komunikacji Samochodowej Oddział I w Białymstoku.**

W odpowiedzi na pismo z dnia 16.III.74 r., dotyczące ukazania się notatki w czasopiśmie „Niwa” o uruchomieniu komunikacji autobusowej Bielsk — Zubowo — Ploski, Oddział I PKS w Białymstoku zawiadamia, że wysuniętego postulatu nie może zrealizować z uwagi na wykorzystanie wszystkich posiadanych autobusów do nowego rozkładu jazdy, który wejdzie w życie z dniem 26 maja 1974 r. Powyższa sprawa będzie ponownie rozpatrywana przy opracowaniu rozkładu jazdy na lata 1975/76 w miesiącu październiku br.

**Z-ca Dyrektora d/s Przewozów**
**Oddziału I-szego PKS w Białymstoku**
**Ryszard Lider**

NIWA 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Indeks 36911.

